**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.21, 20.01, 13.49;
Віцебск — 6.09, 19.53, 13.44;
Магілёў — 6.11, 19.50, 13.39;
Гомель — 6.08, 19.47, 13.39;
Гродна — 6.35, 20.17, 13.42;
Брэст — 6.40, 20.13, 13.33.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 10 красавіка.

**ІМЯНІНЫ:**
Ларыёна, Сцяпана, Яўстрата, Іона; Міхала, Макара.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

10 КРАСАВІКА 1992 г. пятніца, № 74 (21857)




# РОЗГАЛАС

## БУДУЦЬ ТРАКТАРЫ НА ПАЛЯХ

У наш час мы ўжо адвыклі чуць паведамленні пра выкананне і перавыкананне планаў, адвыклі ад рапартаў і справаздач. І ўсё часцей чуем пра парушэнне дагавораў, пра зрыў паставак, наогул, пра неразбярыху і беспарадак на вытворчасці. Таму навіна, якая прагучала днямі па радыёсетцы Мінскага трактарнага завода, была прыемнай для ўсіх, хто яе пачуў. А паведаміла радыё пра тое, што калектыў трактаразаводцаў выканаў вытворчы план першага квартала.

Прыйшоў калектыў да такога выніку, пераадолеўшы пэўныя цяжкасці ў камплектаванні вырабаў. З-за чаго ў студзені прадпрыемства недапаставіла сельскай гаспадарцы 555 машын. І вось напярэдадні масавай сяўбы адставанне ліквідавана. Дзякуючы намаганням забеспячэнцаў рытмічна запрацавалі ліцейныя і механічныя цэхі. А корпус зборкі трактароў у гэты перыяд пастаянна нарошчваў выпуск машын: у студзені за суткі збіралі 388, у лютым — 394, а ў красавіку — 397 трактароў «Беларусь».

**Алег ПРАЦЬКО.**

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ПАСЫЛКІ

**МІНСК. На паштамце «Мінск - Пасажырскі» пры перагрузцы пошты была пашкоджана пасылка на імя жыхара Р. з сяла Барсулу Гералбайскага раёна Азербайджанскай рэспублікі. Пасылка ішла транзітам з горада Глыбокае Віцебскай вобласці. Нямала былі здзіўлены работнікі паштамта, калі са скрынкі пасыпаліся баявыя патроны да аўтамата АК-74 — 1.080 штук. Былі праверaны і іншыя пасылкі з гэтага горада, і ў выніку знойдзена яшчэ адна такая ж скрынка: у ёй было 1.096 патронаў. Міліцыя вядзе расследаванне з мэтай выяўлення адпраўшчыка.**

## Свабодна канверсуемая— не драўляная...

**Учора ў кабінет аператыўнай часткі Знешэканомбанка РБ звярнулася грамадзянка С. з просьбай праверыць 100-доларавую купюру ЗША, быццам бы набытую ў снежні мінулага года ў Германіі. Купюра аказалася фальшывай. Літаральна праз 15 хвілін прыйшоў другі наведвальнік і прынёс дакладна такую ж, якая таксама аказалася падробленай. Уладальнік фальшыўкі з сумам растлумачыў, што набыў яе з рук за 12 тысяч рублёў 5 красавіка гэтага года на стадыёне «Дынама».**

## Да фестывалю— праз церні

У Гродне рыхтуюцца да фестывалю «Балтыйская тэатральная вясна», які мае адбыцца з 18 па 25 красавіка.

Гэтая традыцыйная імпрэза, якая па чарзе праводзіцца ў краінах Прыбалтыкі і Беларусі, абяцае быць цікавай і сёлета.

З дзяржаўнай казны на фестываль выдзелена «ўсяго» паўтара мільёна рублёў. Цяпер для гродзенскіх улад застаецца справай гонару знайсці дадатковыя матэрыяльныя сродкі, каб міжнародны фестываль пакінуў аб сабе толькі добрыя ўражанні ў гасцей і гледачоў...

**М. ДУБРАВІН.**

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(НА 9 КРАСАВІКА Ў РУБЛЯХ)**

**Рыга.** Ялавічына — 80—150, свініна — 80—160, масла — 180, алей—70—80, малако — 20, смятана —140—150, яйкі — 25—30, бульба — 8—12, капуста — 5—6, буракі—8, морква—5—8, цыбуля 25—30.

**Талін.** Ялавічына — 90—160, свініна—60—100, масла — 150—160, алей — 90, яйкі — 40—50, бульба — 12—14, капуста — 8, буракі — 8, морква — 10, цыбуля — 30.

**Масква.** Ялавічына — 150—500, свініна — 150—200, малако — 50—70, тварог — 60—70, смятана — 25—30, бульба — 8—10, капуста—15—20, морква — 15—20, цыбуля — 40—50.

**Санкт-Пецярбург.** Ялавічына — 70—200, свініна — 90—250, масла—200, алей—100, тварог — 50—60, смятана — 130—150, яйкі — 25—35, бульба — 15—25, капуста — 15—25, морква—10—30, цыбуля — 15—25.

**Мінск.** Ялавічына — 70—90, свініна — 110—140, бараніна — 90—100, масла — 100, алей — 65, малако — 5, тварог — 40, смятана — 50, яйкі — 15, бульба—6, капуста—8, буракі—8, морква—10, цыбуля—8—15, яблыкі—45—60, мёд — 200—250, цыгарэты «Гродна» — 13, візітная кніжка пакупніка—800.

100 купонаў — 8 рублёў.

**(РІД).**

## І ЛЮДЗІ ПАВЕРЫЛІ ДЫРЭКТАРУ

**ТАЛАЧЫН (Т. Махтадуй). Яшчэ зусім нядаўна саўгас «Рыдамлянскі» нагадваў нешта накшталт працоўна-выпраўленчай установы. Так-так, сюды на выпрабавальны тэрмін райцэнтр аднаго за адным накіроўваў сваіх прадстаўнікоў. Сярод іх былі зусім маладыя, «зялёныя», якія адно праглі ўлады, і тыя, хто недзе ўжо «падзаляцеў», наламаў дроў. А ў выніку такой бязглуздай чахарды цярпеў, пакутаваў селянін. І, здавалася, ён ужо нікому і нічаму не хацеў і не мог паверыць.**

Чаму ж ажылі, устрапянуліся людзі з прыходам на пасаду дырэктара Мікалая Васільевіча Герасіменкі? Хутчэй за ўсё таму, што вяскоўцы адразу заўважылі: новы кіраўнік жыве і робіць, што можа, не дзеля ўласнай карысці, як гэта назіраецца ў большасці выпадкаў, а на першы план ставіць працоўнага чалавека, яго патрэбы, праблемы. Сёння рабочыя саўгаса маюць і зямлю, і кармы для жывёлы, і ўсё тое, без чаго ў такі цяжкі час не пражыць сельскаму працаўніку. Усім неабходным забяспечаны таксама пажылыя, адзінокія, састарэлыя людзі.

Цікава, як жа Мікалай Васільевіч знаходзіць агульную мову, кантакт са сваімі падначаленымі? Самымі рознымі шляхамі і метадамі. Хоць бы вось такім. Пасля нялёгкага, напружанага працоўнага дня кожны вечар ён нацягвае спартыўны касцюм. Па яго прыкладу тое самае робяць многія спецыялісты, рабочыя. Усе дружна садзяцца ў аўтобус і спяшаюцца ў Талачын, у спартыўную залу СШ № 2. Не бяда, што асобныя саўгасныя валейбалісты не ў «спартыўнай форме». Затое для кожнага запальваецца няўрымслівы агеньчык бадзёрасці. І забываюцца тады на непрыемнасці, перашкоды, на ўсё з імі звязанае. У такой вось абстаноўцы ўмацоўваецца ўзаемаразуменне з маладым дырэктарам, павага да яго, аўтарытэт.

А назаўтра ўсе дружна бяруцца за работу. І яна ў іх спорыцца. На палях і фермах гаспадаркі расце аб'ём вытворчасці прадуктаў земляробства, жывёлагадоўлі. Значыць, з надзеяй і верай можна глядзець у заўтрашні дзень.

## Якім будзе суботнік?

*ГОМЕЛЬ. Шмат што мяняецца зараз у стэрэатыпах людзей: навошта святкаваць Першамай, гадавіну Кастрычніка, выходзіць на суботнік?.. Дарэчы, наконт апошняга ў горадзе доўгі час маўчалі, але на гэтым тыдні загаварылі на поўны голас. Выказваюцца розныя думкі.*

*Справа ў тым, што група кіраўнікоў прадпрыемстваў звярнулася да жыхароў Гомеля з заклікам выйсці 18 красавіка на агульнагарадскі суботнік, а заробленыя грошы пералічыць на разліковы рахунак Гомельскага епархіяльнага ўпраўлення для аднаўлення Петрапаўлаўскага сабора. А нядаўна зарэгістраваны грамадска-палітычны рух «Адзінства і справядлівасць» заклікае людзей выйсці ў гэты дзень на ўсеагульны ленінскі (праўда, ужо не камуністычны) суботнік і атрыманыя грошы накіраваць у фонды абласнога савета жанчын, асацыяцыі мнагадзетных маці, саветам воінаў-інтэрнацыяналістаў, ветэранаў вайны і працы, дзіцячаму фонду.*

## Гувернёр з Англіі

КОБРЫН **(Ю. Фёдарава).** З Вялікабрытаніі запрасілі ў горад выкладчыка англійскай мовы. Цікава, што такі кваліфікаваны педагог будзе вучыць дзяцей у адным з садкоў горада. Гэтаму дзіцячаму садку, як лічаць многія, вельмі пашанцавала. Над ім узяла шэфства вытворча-камерцыйная фірма «Аліпрам». Фірма мае шматмільённы абарот і значную частку сродкаў выдзяляе на дабрачынныя мэты. Матэрыяльнае забеспячэнне дзіцячага садка таксама цудоўнае.

## Конь заўсёды пад рукой

ТАЛАЧЫН **(Т. Махтадуй).** У раёне больш не назіраецца выпадкаў угону коней падлеткамі з жывёлагадоўчых ферм гаспадарак. Яшчэ зусім нядаўна гэтая праблема была даволі вострай для праваахоўных органаў. Вырашыць яе ўдалося пасля таго, як на базе спартыўнага клуба «Ніва» стварылі конеферму. Цяпер тут налічваецца звыш 40 спартыўных рысакоў. Працуе секцыя коннага спорту, якой кіруе Кацярына Мароз.

# Перагаворы ў Парыжы

ПАРЫЖ, 8. **(Кар. ІТАР — ТАСС Андрэй Штopx).** Рэспубліка Беларусь першай з краін — членаў СНД далучылася да Парыжскай хартыі для новай Еўропы — такі галоўны вынік праведзеных сёння ў Елісейскім палацы перагавораў паміж прэзідэнтам Францыі Франсуа Мітэранам і Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам.

«Падзея, якую мы перажываем цяпер, азначае нараджэнне новай эпохі, — заявіў прэзідэнт Францыі пасля падпісання дакумента. — Беларусь стала першай рэспублікай былога Савецкага Саюза, якая, стаўшы на шлях незалежнасці, далучаецца да саюза Еўропы, каб разам з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі працягваць намаганні на міжнароднай арэне». Правілы, якія пакладзены ў аснову гэтага ўзнікаючага на нашых вачах супольніцтва, набываюць усё большую важнасць, адзначыў Ф. Мітэран. «Сустрэча прадстаўнікоў дзяржаў — удзельніц Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая праходзіць цяпер у Хельсінкі, з'яўляецца лагічным працягам працэсу, пачатак якому быў пакладзены ў Парыжы. Галоўным спадзяваннем усіх французаў з'яўляецца жаданне, каб гэты працэс выліўся ва ўмацаванне бяспекі і надзейнасці на еўрапейскім кантыненце», — падкрэсліў прэзідэнт Францыі. Ён высока ацаніў рашэнне Беларусі прадаставіць Мінск у якасці месца правядзення чарговай канферэнцыі ў рамках НБСЕ, у ходзе якой «мы, напэўна, зможам знайсці вырашэнне канфлікту ў Нагорным Карабаху і прадухіліць узнікненне іншых магчымых канфліктаў, што будуць згубнымі для ўсёй Еўропы».

У выступленні ў адказ С. Шушкевіч адзначыў, што «далучэнне Беларусі да Парыжскай хартыі — надзвычай своечасовы, разумны і прадуманы крок, які адлюстроўвае новае мысленне ў былым Савецкім Саюзе, а таксама разуменне гэтага мыслення ў Еўропе». «Як Старшыня беларускага парламента я ганаруся тым, што першым з кіраўнікоў краін — членаў СНД паставіў свой подпіс пад гэтым важным дакументам, — указаў ён. — І я добра ведаю, што ў хуткім часе побач з маім паявяцца подпісы прадстаўнікоў іншых дзяржаў, якія ўваходзяць у Садружнасць». Дзякуючы супрацоўніцтву з заходнееўрапейскімі партнёрамі, якое набывае ўсё больш шырокія маштабы, Беларусь у недалёкай будучыні дасягне неабходнага ўзроўню, каб быць поўнасцю інтэграванай у еўрапейскую сістэму, указаў С. Шушкевіч. Ён падзякаваў прэзідэнту Францыі за разуменне праблем, з якімі сутыкаецца маладая беларуская дзяржава, і жаданне садзейнічаць рэспубліцы ў ажыццяўленні працэсу дэмакратызацыі.

Парыжская хартыя, падпісаная ў лістападзе 1990 года кіраўнікамі дзяржаў — членаў НБСЕ, паклала канец «халоднай вайне» і адкрыла шырокія магчымасці для ўдзелу ўсіх краін еўрапейскага кантынента ў справе будаўніцтва новай Еўропы, дзе міждзяржаўныя адносіны грунтаваліся б на прынцыпах узаемапавагі і супрацоўніцтва.

Пасля завяршэння цырымоніі ў Елісейскім палацы ў інтэрв'ю карэспандэнту ІТАР—ТАСС кіраўнік беларускага парламента заявіў, што «візіт ў Францыю і праведзеныя на французскай зямлі сустрэчы пакідаюць самае добрае ўражанне — прадстаўнікі розных палітычных плыней і партый выключна добразычліва ставяцца да Рэспублікі Беларусь». «Мы б вельмі хацелі, каб нас разумелі за мяжой, і прыемна адзначыць, што імкненне Беларусі да дэмакратычнага развіцця знаходзіць водгук у Еўропе, — указаў далей С. Шушкевіч. — Я вельмі ўдзячны за гэта прэзідэнту Францыі і тым членам французскага сената, з якімі сёння ўдалося сустрэцца». Нам пашанцавала стаць першай рэспублікай, якая не так даўно яшчэ ўваходзіла ў састаў СССР, а цяпер далучылася да Парыжскай хартыі для новай Еўропы, і я думаю, што справа гонару ўсіх краін — членаў СНД пераняць наш прыклад, сказаў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі. Мы ўжо сталі на гэты шлях, і я перакананы, што ўсе астатнія суб'екты экс-СССР павінны зрабіць тое ж самае — іншага спосабу пабудаваць новую Еўропу, у якой знойдуць сваё месца краіны — члены СНД, няма, падкрэсліў ён.

Сёння ж вечарам кіраўнік беларускага парламента сустрэнецца з міністрам замежных спраў Францыі Раланам Дзюма.

# ЦІ НЕ ПАРВЕЦЦА ДЗІРАВАЯ КОЎДРА,

## КАЛІ ЯЕ ЦЯГНУЦЬ У РОЗНЫХ НАПРАМКАХ?

Наша заканадаўства ўсё настойлівей папаўняецца тымі законамі, пра сутнасць якіх у папярэднія гады многія мелі даволі цьмянае ўяўленне. Напрыклад, што такое «дзяржаўная служба», хто ёсць «дзяржаўны служачы»? У многіх ён атаясамліваўся з нейкім чыноўнікам, уся роля якога толькі і заключаецца ў тым, каб яшчэ больш заблытаць самае заблытанае пытанне. А між тым, заканадаўства многіх краін грунтоўна і чотка рэгламентуе гэты род дзейнасці — важнай і сур'ёзнай, бо дзяржаўныя служачыя выступаюць у пэўнай ступені гарантамі дзяржаўнасці, фіксуюць бесперабойнае і дасканалае функцыяніраванне дзяржаўных інстытутаў.

Такая спроба і зроблена на сесіі Вярхоўнага Савета РБ камісіяй па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу, якую ўзначальвае Г. Карпенка. Законапраект «Аб дзяржаўнай службе», прапанаваны камісіяй, выклікаў, як і ўсё новае, дынамічную дыскусію. Асабліва гарачых кропак яна дасягала пры абмеркаванні тых пунктаў, якія закранaлі пэўныя інтарэсы, што склаліся дзе-нідзе сёння.

Вось, напрыклад, такая сітуацыя. Працуе чалавек у дзяржаўнай структуры, якая фарміруе дзяржзаказ, прадастаўляе пад яго сродкі, фінансуе ці кантралюе іх расходаванне. Але ўжо сёння ёсць выпадкі, калі гэтыя сродкі «перакідваюцца» ў камерцыйную структуру, якую ўзначальвае... гэты ж самы дзяржчыноўнік. Зразумела, каму перападзе больш: дзяржаве ці яму. Таму ў праекце такога паваротлівага чалавека ставяць перад выбарам: альбо служба, альбо камерцыя. У дадатак трэба прадставіць звесткі і аб бліжэйшай радні: ці не занялася бізнесам у адпаведных структурах, напрыклад, жонка. А калі такі служачы звальняецца з работы ў дзяржструктуры, то на працягу трох гадоў не мае права наймацца на працу ў тых недзяржаўных прадпрыемствах, якія перад гэтым сам фінансаваў.

Нельга сумяшчаць службу і прадстаўнічую працу, напрыклад, у парламенце. Але тады, гаварыў У. Станкевіч, амаль усяму саставу ВС трэба ісці ў адстаўку.

Дзяржслужачаму забараняецца, згодна з праектам, быць членам любой палітычнай партыі, каб на падставе партыйнай дысцыпліны не садзейнічаць правядзенню пэўных інтарэсаў. Але гэта патрабаванне, лічыць А. Трусаў, тое ж самае, што забарона на прафесіі. У. Заблоцкі пярэчыць: дзяржслужба ажыццяўляецца толькі ў рамках Канстытуцыі, а яна, як вядома, дэпалітызаваная.

Дзяржслужачых у нас будзе, згодна з праектам, 11 катэгорый (не блытаць з вядомым царскім табелем аб рангах — іх 14), з зарплатай ад 3 да 18 мінімальных заробкаў. Пры адстаўцы — дапамога ў размеры гадавога даходу. Ці не многа, пытаўся М. Лакцюшын. Мне здаецца, казаў П. Садоўскі, што фрагмент з забеспячэннем прыйшоў да нас з краін з зусім іншым узроўнем жыцця. Лепей было б узяць там іншае — змястоўнае напаўненне закона. А У. Заблоцкі канстатаваў: дзяржаве нявыгадна эканоміць на фінансаванні дзяржслужбы, бо гэта створыць умовы для карупцыі, якую ўжо зараз мы так гнеўна кляймім. Вось толькі дзе браць сродкі?

Правы дзяржслужачых, лічыць М. Крыжаноўскі, акрэслены дастаткова шырока, а вось абавязкі, а таксама адказнасць варта было б удакладніць. Такія паняцці, як маральнасць, этыка, культура, рэгламентаваць даволі складана, але пры іх адсутнасці вельмі цяжка гаварыць пра аўтарытэт дзяржаўнай працы. Сёння такога служачага амаль немагчыма вызваліць ад займаемай пасады, нават калі справа дайшла да ўмяшання праваахоўных органаў, да скандалаў. У цывілізаваным свеце ў выпадку, калі на адказную асобу кладзецца пляма, яна ідзе ў адстаўку. У нас жа нават гучны публічны скандал не перашкаджае займацца дзяржаўнымі справамі, вяршыць лёсы. Дэпутат прапанаваў пазначыць гэту праблему ў будучым законе.

Ці атрымае прапанова сваё ўвасабленне, пакуль невядома, а вось што паняцці «этыка» і «культура» даўно павінны трывала ўвайсці ў нашы ўзаемаадносіны, паказаў нават узровень вядзення парламенцкіх дэбатаў паміж спадарамі Лукашэнкам і Трусавым. Напал палемікі аказаўся такім высокім, што У. Станкевіч запатрабаваў тэрміновага ўмяшання камісіі па дэпутацкай этыцы.

Закон прыняты ў першым чытанні, але папрацаваць аўтарам на яго давядзенні давядзецца даволі грунтоўна (пачаць і кончыць, як заўважыў П. Садоўскі). Вострая палеміка, што ішла ў парламенце, будзе садзейнічаць узбагачэнню прапанаванага варыянта. Гэта датычыць і наступнага праекта.

Тое, што паартыкульнае прыняцце Закона аб пенсійным забеспячэнні будзе ісці цяжка, сумненняў не было. Улічыць у ім інтарэсы ўсіх сацыяльных груп, нікога не пакрыўдзіць, бадай, немагчыма. Асабліва пры той ідэалагічнай спадчыне, што пакінуў нам учарашні дзень. Кожны з нас, без выключэнняў, — патэнцыяльны пенсіянер, таму зразумела зацікаўленасць, у якой ішло ў друку абмеркаванне гэтага законапраекта, а таксама тых 6 тысяч прапаноў, што паступілі на адрас Вярхоўнага Савета.

Дэпутаты даволі хутка пагадзіліся з аргументамі дакладчыка старшыні Пастаяннай камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры і сацыяльнаму забеспячэнню С. Котава, што ў сувязі са складанасцю і заблытанасцю пытання аб пенсіях ваеннаслужачым яно будзе вырашана ў асобным законе. Лёгкую дыскусію выклікала прапанова аб увядзенні пенсіі за выключныя заслугі перад дзяржавай, але і гэтае пытанне аднесена на пазнейшы разгляд.

Сутыкненне самых палярных думак і нават цэхавых інтарэсаў адбылося пры абмеркаванні артыкула 12, у якім ідзе гаворка аб пенсіях па ўзросту за работу з асаблівымі ўмовамі працы. Маюцца на ўвазе падземныя работы, а таксама работы з асабліва шкоднымі і цяжкімі ўмовамі. Распрацоўшчыкі

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПЯЦІДЗЁНКА НА КАРЫСЦЬ УСІМ

**ГРОДНА. (А. Дук). У абласным сельгасінстытуце рабочы тыдзень паменшаны з шасці да пяці дзён. Каб не скарачаць колькасць лекцый і практычных заняткаў, знойдзены здавальняючы выхад і для студэнтаў, і для выкладчыкаў: заняткі будуць пачынацца з 8 гадзін, а не з 9, як раней. У навучэнцаў няма праблем у сувязі з паездкамі дадому. Выкладчыкі ж могуць дадатковы дзень скарыстаць як для работы з навуковай літаратурай, так і для адпачынку.**




## Што рабіць, калі...

### ...ТРЭБА ПАФАРБАВАЦЬ ТРУБЫ

на садовым участку, а малярных пэндзляў не знойдзеш днём з агнём. Замест малярнага пэндзля можна выкарыстоўваць... старыя рабочыя брызентавыя рукавіцы. Калі да іх з тыльнага боку прышыць абрэзкі футра, атрымаецца своеасаблівы малярны інструмент.

### ...НЕАБХОДНА НАВАСТРЫЦЬ КАСУ,

а вопыту ў гэтай справе малавата. Такое здараецца з дачнікамі, якія вырашылі прывесці газон свайго ўчастка ў парадак. Несумненна, электрычнай міні-касілкай падстрыгчы газон вельмі проста, але пра такія касілкі нашым дачнікам можна толькі марыць. Таму звычайная каса застаецца традыцыйным інструментам садаводаў-аматараў. І яе трэба рэгулярна заточваць асялком, з якім неабходна абыходзіцца вельмі акуратна. Саслізне ён з касы — і не пазбегнуць парэзу пальцаў. Каб гэтага не здарылася, асялок лепш забяспечыць ахоўным шчытком у выглядзе металічнага прамавугольніка. Ён надзяецца на асялок, як абух малатка на рукаятку. З такім шчытком вастрыць касу зручней, асабліва пачынаючым касцам.



### ...ДОМ ЯШЧЭ ЗУСІМ МОЦНЫ,

а па вуглах ужо цвіль. Дарэчы, яна можа з'явіцца нават у новым дачным доміку, асабліва цагляным. Прычына — павышаная вільготнасць. Вядома, калі ўдалося прасушыць дом, гідраізаляваць фундамент, цвіль знікне. Але калі дом размешчаны ў сырым месцы, з цвіллю трэба змагацца дастаткова актыўна. Эфектыўны сродак — пабелка сцен. Але не звычайнай вапнай, а спецыяльным растворам. У яго па магчымасці павінны ўваходзіць каалін і антысептык, які ўдалося дастаць. Напрыклад, растворы фторыстага жалеза, фторыстага натрыю, фторыстага амонію. Ёсць і іншыя сучасныя антысептычныя сродкі, але ў нашых магазінах яны бываюць надзвычай рэдка. Таму ў справу пойдзе любы антысептык, які ёсць у гаспадарцы. Ён неабходны, калі ў хаце пасяліўся і яшчэ адзін няпрошаны госць — хатні грыб. З ім жарты дрэнныя. Ён не толькі разбурае сцены дома, але і дрэнна ўплывае на здароўе яго жыхароў. Таму, не марудзячы, трэба прымаць самыя рашучыя меры. Участкі бярвён зруба ці тынкоўкі, якія падвергліся «нападу» грыба, выдаляюць з «запасам», захопліваючы і здаровыя месцы сцяны. Калі грыб знойдзены паблізу фундамента, апошні акуратна прапальваюць паяльнай лямпай і апрацоўваюць антысептыкам. Ім жа старанна змазваюць і паражоныя сцены. Пасля гэтага накладваюць латы з драўніны ці тынкоўкі і старанна прасушваюць апрацаваныя месцы.

### ...ЛЕСВІЦА-ДРАБІНА ХОЧА САСЛІЗНУЦЬ

па слупе ці дрэве. Такое нярэдка бывае, калі ў яе верхняя ступенька — брусок-перакладзіна. Іншая справа, калі замест яе — кусок трывалага каната. Такая гнуткая ступенька не дае лесвіцы з'язджаць убок, робіць яе больш трывалай. Вось яшчэ адно прыстасаванне, якое павысіць надзейнасць драбіны. Каб яна стаяла ўстойліва на любым грунце, злучыце размешчаныя адзін насупраць аднаго брусы лесвіцы ланцужком ці трывалай вяроўкай. Тады ў час работы лесвіца-драбіна сама па сабе не рассунецца.



## Сёе-тое пра посуд на кухні



● **Каструля, у якой падгарэла малако,** адмыецца, калі наліць у яе вады, дадаць 1—2 лыжкі пітной соды і кіпяціць 2—3 мін.

● Каб адмыць **вінны асадак у графіне,** трэба на ноч наліць у яго цёплай мыльнай вады, а раніцай засыпаць злёгку ўвільготненую пітную соду і добра страсянуць. Калі асадак усё ж застаўся, усё трэба паўтарыць. Ачышчаны графін спаласнуць вадой з воцатам.

● **Алюмініевыя каструлі** заўсёды будуць чыстыя і бліскучыя, калі ў ваду для мыцця дадаць некалькі кропель нашатырнага спірту.

● Кругі і плямы, што ўтварыліся **на сподачках-падстаўках пад пакаёвымі кветкамі,** лёгка адмыюцца, калі сподачкі патрымаць гадзіну ў слабым растворы воцату, а потым спаласнуць.

● **Пасуду, у якой былі сырыя яйкі,** цеста, малако, рыба, селядцы, варэнне, трэба мыць спачатку халоднай, а потым гарачай вадой.

● **Каб памыць чайнік ці кафейнік,** трэба даверху наліць у яго вады, дадаць сталовую лыжку пітной соды і закіпяціць, потым спаласнуць некалькі разоў цёплай вадой.

● **Сталовыя нажы лёгка натачыць,** калі папярэдне апусціць іх на паўгадзіны ў слабы раствор кухоннай солі.

● **Каб зняць накіп з пасуды,** трэба пракіпяціць у ёй ваду з бульбянымі лупінамі.

● **Мясарубка стане чыстай,** калі прапусціць праз яе сухі хлеб ці сухары.

● **Іржу з нажоў і відэльцаў** можна зняць цыбуляй.

● **Устойлівыя плямы на нажах і відэльцах** ачышчаюцца лімонным сокам, пасля чаго трэба працерці іх мяккай шарсцяной анучкай.

● **Нажы і відэльцы** становяцца чыстымі і бліскучымі, калі іх нацерці разрэзанай сырой бульбінай.



● **Пры мыцці пасуды часта шклянкі ставяць адна ў адну,** і яны застраюць. Іх лёгка аддзяліць, калі ніжнюю шклянку апусціць у цёплую ваду, а верхнюю напоўніць вадой халоднай.

● **Брудныя ракавіны,** асабліва ржу на іх лёгка адмыць гарачым воцатам.

## Крыху аб прадуктах

**ПРЫ НАРАЗАННІ РЫБЫ для смажання, каб кавалкі былі больш шырокімі, нож трэба трымаць пад вуглом да дошкі. Таўшчыня кавалкаў не павінна перавышаць 3 см. Такі спосаб наразання забяспечвае раўнамернае смажанне рыбы, паляпшае яе смак і знешні выгляд.**

**СВЕЖАЗАМАРОЖАНУЮ АГАРОДНІНУ кідайце ў кіпень, папярэдне не размарожваючы. Яна будзе смачнейшай, ды і вітамінаў захаваецца больш.**

**НЕПРЫЕМНЫ СМАК падмарожанай бульбы знікне, калі папярэдне патрымаеце яе ў халоднай вадзе, а потым апусціце ў кіпень, дадаўшы лыжку воцату.**

**БАБОВЫЯ ВАРАЦЦА ДОЎГА, таму іх трэба замочваць у халоднай вадзе (у цёплай вадзе яны закісаюць).**

**СЕЛЯДЗЕЦ БУДЗЕ БОЛЬШ САКАВІТЫМ І СМАЧНЫМ, калі пасля раздзелкі вымачыць яго 30 — 40 хвілін у малацэ ці настоі чаю.**

**КАБ СТРАВЫ З ТВАРАГУ БЫЛІ смачнейшымі і мелі прыемную кансістэнцыю, перад прыгатаваннем тварог трэба працерці праз сіта.**

**САЛАТУ ТРЭБА ГАТАВАЦЬ з ахаладжаных прадуктаў.**

**ЯБЛЫКІ, АЧЫШЧАНЫЯ І НАРЭЗАНЫЯ для салаты, не пацямнеюць, калі іх пакласці на 10 мінут у злёгку падкісленую ваду.**

# БЕЛАРУШЧЫНА

*Родная мова, гісторыя, культура— неад'емная частка нашага самаўсведамлення*

ВЕРСІЯ

## ТАЙНАПІС СКАРЫНАЎСКІХ СІМВАЛАЎ

**Францыск Скарына пакінуў багатую культурную і літаратурную спадчыну, якая тоіць у сабе яшчэ шмат неразгаданага. Пакрыта тайнай сімволіка асветніка, у прыватнасці, яго асабісты герб: сонца і месяц. (Гэту эмблему, як вы заўважылі, скарыстоўвае і наша рубрыка). Было шмат спроб даць яе тлумачэнні. Наш аўтар — спецыяліст па сістэматэхніцы — робіць спробу падысці з прынцыпамі сваёй навукі да гісторыі культуры і мовы і прыходзіць да нечаканых вывадаў. Хто ведае, магчыма, якраз рознабаковасць поглядаў і наблізіць нас да разгадкі! Дададзім, што будучы перакананым у сістэмнасці мовы і сімволікі Р. Равяка мае таксама новую версію паходжання назвы Мінск, якая звязана з сімвалам таго ж... месяца. Мяркуем, чытачы змогуць пазнаёміцца з гэтым матэрыялам у адным з наступных выпускаў.**

ЗАГАДКАЙ АДКРЫВАЕЦЦА БІБЛІЯ — галоўная друкарская праца «вучонага мужа ў лекарскіх навуках доктара Францыска, Скарыніна сына, з Полацка». На тытульным лісце надрукаваны тры геральдычныя шчыты. (Ілюстр. 1) Але на верхнім — адлюстраванне адсутнічае. Як устанавілі даследчыкі, яно было зрэзана з гравіравальнай дошкі перад друкаваннем. Чаму? Які сімвал не прайшоў цэнзуру, калі такая была?



Звернем увагу на гэты знак, які захаваўся на партрэце першадрукара. Мастацтвазнаўцы расшыфроўвалі яго як выяву друкарскага станка з вінтам прэса. Але многае тут не зусім яснае, спрэчнае.

Перанясёмся ў думках у пачатак XVI стагоддзя, калі Скарына задумаў надрукаваць Біблію старажытнарускім шрыфтам. Задумка гэта была дзёрзкай сама па сабе: каталіцкія прапаведнікі кананізіравалі божае пісанне. Лічылася, што яно можа выкладацца толькі на лацыні. Славянскі першадрукар Ш. Фіоль з Кракава ў 1491 годзе быў арыштаваны інквізіцыяй і аддадзены пад суд — святыя кнігі яму забаранілі друкаваць кірыліцай. Такім чынам, першы вывад, які мы павінны зрабіць: справу Скарыны падтрымала праваслаўная царква. Але сам асветнік дыпламатычна не завастраў на гэтым увагі, выдаваў жа ён кнігі на сродкі мецэнатаў у Празе, дзе тады пераважала каталіцкая вера. Верагодна, па заўвазе праваслаўнага «цэнзара» і зняў наш суайчыннік адлюстраванне, якое вяршыла тытульны ліст: у верхняй частцы яго быў знак-сімвал каталіцкай веры.

Звернемся да асабістага сігнета Скарыны. Агульнапрынята, што гэта знак сонечнага зацьмення, і, уласна кажучы, па ім устанаўліваюць мяркуемы год нараджэння асветніка. Па прадказанню Святога пісання ў 1492 годзе з дня нараджэння Хрыстова павінен быў наступіць «канец свету». Веруючыя людзі, молячыся, чакалі гэтага часу. І вось напярэдадні адбылося поўнае сонечнае зацьменне — вялікі страх перажылі нашы продкі! І калі Ф. Скарына сапраўды нарадзіўся ў гэты год, то паходжанне сімвала становіцца лагічным. Не зразумела іншае: як мог высокаадукаваны і высокакультурны чалавек, доктар са слаўнага Полацка, змясціць свой асабісты знак у большасць ілюстрацый Святога пісання? І як царква магла дапусціць такое? Тым больш, што само сонечнае зацьменне лічылася дрэнным знакам. Гэта ўспаміналася, напрыклад, у класічным шэдэўры—«Слове аб палку Ігаравым». Апрача таго, для сімвалізацыі зацьмення не спатрэбілася б адушаўляць свяцілы. Але яны з тварамі. Гэта бажаствы. І Скарына перакрэсліў, «перахрысціў» іх адно другім.

Неабходна шукаць глыбінны сэнс знака. Сам Францыск Скарына ў каментарыях да кніг Бібліі звяртаў увагу на сімвалічна-пераносны сэнс пісання. Ён часта прымяняў словы «знамя», «знаменование», каб адлюстраваць дваякі сэнс прытчаў і Бібліі ў цэлым. «Святое письмо все иные науки превышаеть, понеже егда бываеть чтено, под простыми словами замыкаеть тайну». Падыдзем і да гэтага асабістага герба з такой жа меркай, за знешнім паспрабуем убачыць глыбінны сэнс. Тым больш, што і сам асветнік у прадмове да кніг Бібліі, цытуючы цара Саламона, падказвае нам: «Яко свет превышает над темности, тако и мудрый над глупаго. Мудрый имать очи во главе своей, а глупый во тьме ходить».

Сонца і месяц — старажытныя славянскія сімвалы. Ідзе гэта яшчэ ад язычніцтва, калі людзі бачылі сваіх багоў у прыродзе. Па фазах месяца і становішчу сонца на небе вызначаюцца ўсе народныя і рэлігійныя святы. У язычніцкай веры было шмат багоў, адзін з галоўных — бог сонца Даждж-бог. Месяц як сімвал узяты хрысціянамі, напэўна, на старажытным Усходзе. Ф. Скарына абазначыў гэтым знакам вышэйшых носьбітаў хрысціянскай веры. Як графічныя сімвалы сонца і месяц выкарыстоўваліся і да Скарыны. Блізкім адлюстраваннем з'яўляецца гравюра з «Сусветнай хронікі» 1493 года Г. Шэдаля. Але беларускі асветнік размясціў іх інакш. Паспрабуем і мы правесці такую аперацыю, абстрагіраваўшы малюнак сонца.

Здаўна знакам сонца з'яўляецца крыж. Дададзім да яго абстрагаванае адлюстраванне месяца, размясціўшы, як у Скарыны:



Мы атрымалі праваслаўны хрысціянскі сімвал! Становіцца зразумелым пастаянная прысутнасць герба Ф. Скарыны ў ілюстрацыях кніг Бібліі. Скарына, перакрэсліўшы, перахрысціўшы язычніцкага Даждж-бога, адмаўляе язычніцкую веру і сцвярджае хрысціянскую, прычым — праваслаўную. Разам з тым адлюстроўвае іх узаемасувязь і адзінства! Аб гэтым вучоны муж гаворыць нам непасрэдна ў прадмове да кнігі «Премудрость божия»: «Премудрость... отводит нас от идолопоклонения поганского и приводит ко познанию сотворителя бога през речи видомые, сотворенные от него; те же (речи) о похвале честного и животворящего креста, о справедливости божьей...» А заканчваючы кнігу прамудрасці, Ф. Скарына пакідае толькі адзін герб, іншыя ўбірае. І робіць гэта таму, што Біблія называецца «рускай»! Для рускіх характэрна менавіта праваслаўная вера. (Неабходна адзначыць, што этнонім «рускія» пэўны час належаў і беларусам).

Паспрабуем растлумачыць і тое, чаму крыж сімвалізуе сонца. Звернемся зноў да «Аповесці мінулых гадоў» у перакладзе Д. С. Ліхачова: «На исходе этого же года (1104) послал Святополк Путяту на Минск, а Владимир послал сына своего Ярополка, а Олег сам пошел на Глеба (минского), взяв Давыда Всеславича; и, ничего не добившись, возвратились... В тот же год знамение было: стояло солнце в круге, а посредине круга крест, и посредине креста солнце, а вне круга по обе стороны два солнца, а над солнцем вне круга дуга, рогами на север; такое же знамение было и в луне, такого же точно вида, в течение трех дней, 4, 5 и 6 февраля днем в солнце, а ночью в луне, три ночи подряд».

Такія з'явы здараюцца вельмі рэдка. Трэба меркаваць, ад іх і зыходзіць старажытны знак сонца ў выглядзе крыжа. Вось так выглядае адно з іх па акварэлі Л. Венкебаха (ілюстр. 2). Фізікі называюць іх гало. Ствараюцца гало з-за праламлення святла ў крышталіках-ільдзінках, якія ўтвараюцца ў атмасферы.



Нам застаецца адказаць толькі на пытанне, што ж азначаюць іншыя сімвалы мудрага першадрукара? На жаль, гэта не друкарскі станок, не вінт прэса і не шалі — што намалявала багатая фантазія даследчыкаў. Пасля таго, як мы ўстанавілі сэнс асноўнага знака Скарыны, не цяжка здагадацца, што на старонках Бібліі павінны быць знакі, якія сімвалізуюць веру. Хрысціянская вера мае тры асноўныя галіны: каталіцкую, праваслаўную і пратэстанцкую. Верхні, зніклы знак на тытульным лісце Бібліі — сімвал каталіцкай веры. Ён таму і знік, што не з'яўляецца ўвасабленнем рускага веруючага. У тым, што гэта карона, якую звычайна уручаў Папа рымскі, а не прэс з вінтом, лёгка пераканацца, разгледзеўшы ўважліва гравюру з тытульнага ліста кнігі «Лічбы». Наперадзе палкоў ідуць тры сцяганосцы з сімваламі хрысціянскай веры. З праваслаўнай і каталіцкай сімволікай мы разабраліся, Складаней з пратэстанцкай.

Трохвугольнік і літара «Т» на гербе (3 на ілюстр. 1) чытаюцца адразу. Але калі мы параўнаем некалькі адлюстраванняў, то ясна ўбачым літары «Л» і «А». Асабліва добра яны чытаюцца на гравюрах «Адлюстраванне кіёта» і «Адлюстраванне стала». Так, «Л» (людзі), «А» (юс малы), «Т» (цвёрда) і трохвугольнік — канешне ж **Лютэр**, заснавальнік пратэстанцкай галіны, і сімвал трыадзінства бога!




Марцін Лютэр — сучаснік Скарыны, доктар багаслоўя з універсітэта нямецкага горада Вітэнберг. У 1517 годзе ён вывесіў на царкоўныя дзверы ліст з 95 тэзісамі. Па традыцыі сярэднявечча гэта азначала выклік на дыспут па багаслоўскай праблеме. Тэзісы ўскалыхнулі ўсю Еўропу. У іх высмейвалася папства, звычаі каталіцкай царквы, у прыватнасці, абет святароў не ўступаць у шлюб і гандаль індульгенцыямі, якія «адпускалі ўсе грахі». М. Лютэр адмаўляў каноны царквы і сцвярджаў святасць толькі Пісання. Дыспут з прафесарам з Лейпцыгскага ўніверсітэта, які цягнуўся 20 дзён, прынёс Лютэру вялікую вядомасць і папулярнасць. У 1520 годзе ён выдаў Біблію на нямецкай мове.

Для пратэстанцтва характэрны спрошчаны культ. Таму і сімвал Скарыны зусім просты. Гэта вера атрымала найбольшае распаўсюджанне ў ЗША. У тым, што беларускаму асветніку ўдалося вельмі дакладна і вобразна адлюстраваць трохвугольнікам галоўную таямніцу хрысціянскай веры, мы можам пераканацца, прачытаўшы ў «Вячэрнім Мінску» ад 17 лютага інтэрв'ю пастара з ЗША Лорэна Нельсана:

«Цуд часта ахутаны тайнай. Якая тайна для вас неразгадальная? — Самае вялікае для мяне таінства — як тры асобы Бога могуць быць адзінымі».

Характэрна і тое, што пастар з ЗША на працягу студзеня — лютага праводзіў цыкл пропаведзяў «Біблейскі шлях да новага жыцця» ў Мінску.

Такім чынам, Скарына як бы прадбачыў, што і пратэстанцтва разам з праваслаўем знойдзе сваіх прыхільнікаў на нашай зямлі.

**Рыгор РАВЯКА.**

АБРАЗКІ

## Марцін катаўся на арбоне...

**Мы прасілі чытачоў, якія ўдзельнічаюць у віктарыне «Нашы карані», напісаць міні-сачыненне пра яркія словы, выразы, што ім даводзілася чуць. Зразумела, была тут свая мэта: падахвоціць людзей пакорпацца ў «кішэнях» памяці, і ўвогуле, запамінаць і занатоўваць «залацінкі» народнай гаворкі. Бо, як той казаў, слова — вецер, а папера — грунт. Напісанае застаецца.**

**Другі тур віктарыны яшчэ працягваецца, і чытачы маюць час для самастойнага пошуку адказаў. Дзеля прыкладу і заахвочвання мы змяшчаем пакуль адзін з лепшых допісаў — россып філалагічных абразкоў, які сабраў выкладчык фізікі Ашмянскага ПТВ-192 Валерый САЙКО.**

У вёсцы, дзе прайшло маё дзяцінства (у сямі кіламетрах ад Гродна), пра чалавека, які неахайна апранаецца, гаварылі: **«Марціну, прадай грудзіну»**. Гэта значыць, у такога чалавека наперадзе ўсё расхрыстана, відаць цела.

***

У тым жа Гродзенскім раёне ёсць яшчэ адна прыказка пра Марціна: **«Цікавы, як Марцін да кавы»**. Гэта значыць, што такі чалавек усюды ўсуне свой нос, нават дзе і не трэба.

***

А чалавека, дакладней жанчыну, якая без усялякай патрэбы і неабходнасці менціць языком, кожнага абгаворыць, а бывае што і аблае, у маёй роднай вёсцы называлі **«ляпаўка»**, Пайшло гэта, напэўна, ад скарачэння выразу «ляпаць» (языком): гаворыць, што касу кляпае — ляп-ляп...

***

У Ашмянах, куды я прыехаў на працу пасля заканчэння педагагічнага інстытута два дзесяцігоддзі таму назад, пра такую чалавечую звычку казалі: **«Млын згарэў, а лапатня засталася»**. Усе ўжо перасталі гаварыць, а ён усё гаворыць-гаворыць... Відаць, ад слова «лопат», а можа і ад «лопасці»...

***

У тых жа Ашмянах, у першы дзень прыезду я пачуў невядомае мне слова **«арбон»**: «Ці хутка прыйдзе арбон?» «Дзе ж дзеўся той арбон?» «Хутчэй, бо запознімся на арбон».

Так мясцовыя старажылы называлі і працягваюць называць аўтобус, незалежна ад рэйсу, напрамку і значэння (мясцовы ці міжгародні). Прычым, гэтае слова распаўсюджана па ўсім раёне. Як я мяркую, яно паходзіць ад слова «арба» — чатырохколавая брычка.

ГАРТАЮЧЫ КНІГІ

## «Наш народ любіць праўду і красу»

**ХАРАКТАР БЕЛАРУСАЎ ПАВОДЛЕ СВЕДЧАННЯЎ РОЗНЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ, ЭТНАГРАФІЧНЫХ І ЛІТАРАТУРНЫХ КРЫНІЦ**

**А. СМОЛІЧ. «Геаграфія Беларусі». Выд. 3-е. Вільня, 1923.**

Беларус «не мае ў характары тае рызыкі, адкрытае і грубае прастаты, характэрнае для маскоўца...» Ён «не мае лёгкадумнасці, свецкасці і самахвальства, якімі гэтак часта вызначаюцца палякі». «Ад украінца беларус адзначаецца сваім шчырэйшым сэрцам, крыху большаю рухавасцю».

«Характар беларуса больш паважны, спакойны і рахманы, з добра развітаю воляю, панаваннем над сабою і вытрываласцю ў працы».

«Беларус добры гаспадар, шануе капейку, а крыху можа і скупаваты, ... вельмі гасцінны».

«Беларус не помніць злога і лёгка дарue сваім крыўдзіцелям». «Пачуццё помсты ў ім (беларусе.—Э. Д.) няразвіта, што адрознівае яго нават ад украінца».

«Недахват ваяўнічасці трэба тлумачыць толькі лагоднасцю, рахманасцю беларускага народнага характару: беларус рады саступіць, абы была згода».

«Беларус саўсім не знае рэлігійнага фанатызму ды шавінізму, ... беларус як найлепей жывець са сваімі суседзямі розных вераў ды розных нацыяў».

«Беларус мае душу мяккую, з надзвычайна развітаю ўражлівасцю ды фантазіяю (аб чым сведчыць прыгажосць і багацце яго народнай паэзіі)».

«У песнях выяўляецца глыбіня душы беларуса, далікатная, паэтычная, глыбока задуменная. І найчасцей нейкая засмучаная».

**А. ЦВІКЕВІЧ. «Беларусь. Палітычны нарыс». Берлін, 1919.**

«Нацыянальная рыса беларусаў — нецярпенне гвалту, у чым бы ён ні праяўляўся. Можна прызнаць, што гэта слабасць беларускага народа ў цяперашнім, але сіла і гордасць яго ў будучым».

**М. БАГДАНОВІЧ. «Беларусы» (Гэты артыкул быў апублікаваны ў часопісе «Нацыянальныя праблемы» ў 1915 г.).**

«...Беларуская інтэлігенцыя ніколі не ўпадала ў шавінізм, не імкнулася да змяншэння правоў суседніх нацыянальнасцей дзеля паўнаты самастойнага развіцця».

**М. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ. «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», Вільня, 1919.**

«Жаданне збудаваць сваю дзяржаўную незалежнасць, уменне бараніць яе, жаданне дайсці вольнага дэмакратычнага ладу — вось асноўныя рысы гістарычнае мінуўшчыны беларускага народа. І мы не ведаем другое славянскае племя, у якога гэта рыса выяўлялася б ярчэй, чымся ў нашых прашчураў».

**П. БЯССОНАЎ. «Зборнік беларускіх песень». Масква, 1871.**

У прадмове да зборніка аўтар піша наступнае аб вясковым жыцці беларусаў: «Быт просты, паважны, неяк асабліва грунтоўны, усяго менш дзікі ці грубы, найбольш ветлы, для сябе ўтульны, заможны без раскошы, пры спакойным характары і ў стрыманым гумары. Праца няспешная, але доўгая і ўпорчывая...»

(Аўтарскі стыль у гэтай выпісцы захаваны — Э. Д.).

**«Беларусы» (У кн. «Руская энцыклапедыя», т. 3 — Санкт-Пецярбург).** «Па натуры беларусы надзвычай апатычныя, але гэта хутчэй за ўсё вынік гістарычных умоў, чым прыкмета малаадаранасці».

«Галоўнае імкненне беларусаў — адмежавацца ад суседзяў, нават ва ўрон зручнасці (характэрная рыса — практычна няма агульных калодзежаў і лазняў)».

«У фальклоры і бытавых асаблівасцях беларусаў большасць спецыялістаў знаходзяць найлепш захаваным абліччa ўсходняга славяніна». (Пераклад з рускай — Э. Д.).

**У. КАРАТКЕВІЧ. «Зямля пад белымі крыламі» (Караткевіч У. Збор твораў у 8 т. — т. 8, кн. 1 — Мінск, 1990).**

«...уменне іранізаваць не толькі над кімсьці, але і над самім сабою — адна з самых, памойму, вартых рыс беларускага нацыянальнага характару».

«Праявы знешняй сілы, якая ўразіць на хвіліну дый звяне, замяняе тут (на Беларусі) вынослівасць, жылаватасць, цягавітасць. Там, дзе другі можа апусціць рукі, беларус будзе цягнуць».

«Беларус якраз адрозніваецца шчодрасцю, заўсёднай гатоўнасцю прыйсці на дапамогу ў бядзе. Усе, хто прыязджае да нас, адзначаюць як адну з галоўных рыс — гасціннасць, пачасту досыць цяжкую для госця...»

«Галоўнае ў нашым характары — гасціннасць добрага да добрых. Уласціва нашым людзям знаходлівасць, нават некаторая хітрасць».

«Па агульных назіраннях беларусам прыродна ўласцівая павага да іншых народаў і памяркоўнасць да таго, хто думае іначай».

**П. ШПІЛЕЎСКІ. «Современник» — 1853, № 7, с. 14.**

«Пачуўшы даўно знаёмую мне беларускую мову, я міжволі спыніўся і, здавалася, удыхаў у сябе пачутыя ў паветры гукі меладычнай, пявучай мовы, у душу маю так вось і прасіліся адгалоскі слоў, вымаўленых, па звычаю беларусцаў, нараспеў, працягла».

**Сабраў Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.**

---

## Драўлянае крэсла сваімі рукамі



**У мінулым выпуску «Хатняй энцыклапедыі» мы перадрукавалі малюнак і чарцяжы з венгерскага часопіса «Эзермештэр», з дапамогай якіх можна сваімі сіламі зрабіць стол у сялянскім стылі.**

**Сёння працягваем гэту тэму і змяшчаем чарцяжы крэсла ў тым жа стылі. Прынцып вырабу яго такі ж, як і стала.**

Для вырабу спінак крэсла бярэцца дошка таўшчынёй 20, а для сядзення —25 міліметраў. Гэта мінімальная таўшчыня. Але можна браць і таўсцейшыя дошкі — крэсла будзе больш трывалым і выглядаць унушальна, як сапраўдная сялянская мэбля.

Драўніна павінна быць сухой, па магчымасці трывалых парод.

Палавінкі спінкі крэсла злучаюцца паміж сабой нагелямі — круглымі драўлянымі шыпамі. Ножкі ўмацоўваюцца ў гнёздах клінамі. Каб кліны лепш трымаліся, яны павінны быць зроблены з невялікім ухілам.

Афарбоўка рэкамендуецца светлая, каб быў бачны натуральны малюнак драўніны.

**НА ЧАРЦЯЖАХ: 1. Канструкцыя крэсла. 2. Адзін са спосабаў злучэння дэталей. 3. Варыянты спінак, а таксама сядзенне і дэталі канструкцыі.**

229

## Адзінокая пальчатка? Гэта ж проста скарб!

**Па-першае, з адной скуранай пальчаткі можна зрабіць дзве амаль скураныя, калі дабавіць да іх пару трыкатажных пальчатак. Распарыце адзінокую скураную пальчатку, выпарыце вялікі палец, складзіце верхнюю і ніжнюю палавінкі разам і падганіце іх па форме, зрэзаўшы лішняе. Цяпер прышыйце на верх нескураных пальчатак гэтыя палавінкі, уколваючы тонкую іголку з моцнай баваўнянай або льняной ніткай у адтуліны ад старых швоў. З добрай, нязношанай пальчаткі атрымаецца элегантная і зручная, цёплая новая пара.**

**Калі ваша скураная пальчатка страціла ўжо выгляд,** лепш пусціць яе на ўмацаванне тыльнага боку (у даным выпадку далоняў). Выразаныя з яе кавалачкі скуры, нашытыя на далоні вязаных пальчатак або рукавіц там, дзе яны хутчэй за ўсё зношваюцца, зробяць іх арыгінальнымі, а галоўнае — трывалымі. Такія ж кружочкі нядрэнна нашыць на кончыкі пальцаў пальчатак з боку падушачак. Гэта намнога падоўжыць іх жыццё, паколькі тут яны рвуцца больш за ўсё.

**Абрэзкі пасля гэтай работы таксама пойдуць у справу.** Палоску тонкай скуры, прадольна складзеную ўдвая або ўтрая і праклееную, можна прышыць у якасці вешалкі да паліто або курткі. Яна значна больш трывалая, чым звычайная.

**Прышываючы гузікі да вязаных рэчаў,** мяккага трыкатажу, сукна, падкладвайце спаднізу скураныя кружочкі, і гузікі будуць трымацца больш надзейна.

**Самі гузікі можна абцягнуць тонкай мяккай скурай ад пальчаткі.** Такіх арыгінальных гузікаў няма ў магазінах, а ў вас будуць. Лепш за ўсё яны падыдуць да адзення спартыўнага стылю або да вязанага ўручную. А абшытыя скурай петлі больш практычныя, прыгожыя і трывалыя. Іх няцяжка зрабіць такімі скурай ад пальчаткі.



**Калі выцерліся або парваліся абшлагі рукавоў курткі** або пінжака спартыўнага пакрою, іх можна прыгожа апрацаваць палоскамі скуры. Для гэтага трэба разрэзаць манжэту застаўшайся ў адзіноце пальчаткі па спіралі і атрыманую палоску выкарыстаць у якасці абтачкі. Гэта

230

ўжо будзе не латка, а модная аддзелка. Такая мера выратуе і праношаныя абшлагі рукавоў футра.

**Праразныя кішэні, якія пачалі распорвацца** і рвацца ў вуглах, таксама можна адрамантаваць прышытымі ў гэтых месцах трохвугольнымі кавалачкамі скуры. Такімі ж трохвугольнікамі нядрэнна аддзелаць канцы вытачак на паліто, куртцы або спадніцы са шчыльнай тканіны, якая дрэнна адпрасоўваецца.

**Працёртыя локці на адзенні прымуць прыстойны выгляд,** калі накласці на іх квадратныя, трохвугольныя або авальныя латкі з мяккай скуры. Калені гатовых прарвацца джынсаў або трыкатажных спартыўных штаноў скураныя латкі нават упрыгожаць. Зношаныя кішэні абновіць акантоўка скурай. Ансамбль завершаць скураныя гузікі — і вось старая рэч стала выглядаць акуратнай і сучаснай. І ўсё дзякуючы бескарыснай адзінокай скуранай пальчатцы. Праўда, на поўны ансамбль адной пальчаткі можа аказацца мала.

## Драпіны на халадзільніку

**Як аднавіць знешні выгляд старога халадзільніка, калі яго белы эмаліраваны корпус сапсаваны!**

Самы просты выхад са становішча—калі ёсць магчымасць пакрыць пашкоджаныя месцы белай эмаллю для металу. Такая эмаль у аэразольнай упакоўцы іншы раз бывае ў гаспадарчых магазінах.

Невялікія драпіны лёгка замаскіраваць белым крэмам для абутку. Дастаткова нанесці яго на пашкоджаныя месцы і запаліраваць суконкай. Час ад часу гэта пакрыццё прыйдзецца абнаўляць.

Калі вас раздражняюць не толькі драпіны на корпусе, але і старамодны выгляд халадзільніка, які нагадвае брудна-белую гурбу, нядрэнны выхад — самаклеючы пластык ці шпалеры, якія мыюцца. Абклейце корпус ці хоць бы дзверцы —і можна будзе падумаць, што гэта новая мадэль з сучасным дызайнам. Калі пластыку мала, дастаткова абклеіць ім толькі перыметр дзверцаў (там у першую чаргу і з'яўляюцца драпіны). Гэтак жа зрабіце і з бакавінамі.



231

## Парады на ўсякі выпадак

Як зберагчы кансерваваныя агародніну і садавіну, якія застаюцца ў слоіку пасля абеду?

У пустое месца слоіка можна ўставіць два (для надзейнасці адзін у адным) чыстыя поліэтыленавыя мяшочкі. У мяшочак наліваецца вада, якая рассоўвае яго сценкі і моцна прыціскае да паверхні слоіка, ствараючы такім чынам герметычную накрыўку.





Пусты пакет з-пад малака з выразаным бокам можа замяніць варонку, якой не аказалася пад рукамі.

Невялікая фаска, якую можна зняць свярдзёлкам, адвёрткай ці нажом з вострых краёў гузіка, захавае нітку ад хуткага пераціранне і павялічыць час службы прышытага гузіка.





Прадзіраўлены гумавы шланг пральнай машыны можна лёгка адрамантаваць сваімі сіламі. Высушыўшы пашкоджанае месца, трэба яго добра зачысціць напільнікам, а потым змазаць гумавым клеем і абматаць ізаляцыйнай стужкай з тканіны. Зрабіць гэта трэба ў некалькі слаёў, кожны з іх прамазваючы клеем.

232

# РОЗГАЛАС

## НА КАГО СПАДЗЯВАЦЦА

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ (У. Пернікаў). Прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў правёў двухдзённы семінар-нараду на тэму: «Работа мясцовых Саветаў і іх органаў па вырашэнню сацыяльных пытанняў у перыяд пасля чарнобыльскай катастрофы».**

Удзельнікі яе — намеснікі старшынь райгарвыканкомаў, якія курыруюць чарнобыльскія праблемы, наведалі рад населеных пунктаў і гаспадарак Нараўлянскага раёна і прадпрыемстваў Мазыра. Яны пазнаёміліся з жыццём людзей у непасрэднай блізкасці ад АЭС, іх работай і сацыяльнай абароненасцю. У выступленнях на пленарным пасяджэнні намесніка старшыні абласнога Савета народных дэпутатаў Валерыя Сяліцкага, намесніка старшыні аблвыканкома Віталя Сыча, старшыні Нараўлянскага райвыканкома Уладзіміра Куралені, дырэктара Беларускага інстытута сельгасрадыялогіі Славы Фірсанавай, дырэктара Гомельскага філіяла Беларускага НДІ радыяцыйнай медыцыны Анатоля Скрабіна, намесніка старшыні Мазырскага гарвыканкома Валянціны Шырай і дэпутатаў прагучала трывога з прычыны таго, што і зараз у радзе раёнаў вобласці, якія найбольш пацярпелі ад «мірнага» атама, да канца не вырашаны шэраг праблем. Гэта і добраўпарадкаванне населеных пунктаў, недастатковае медыцынскае, транспартнае, гандлёвае і камунальнае абслугоўванне, навучанне дзяцей у школах, дзе не хапае настаўнікаў. Па ўказаных і іншых жыццёва важных пытаннях, якія не пад сілу мясцовым савецкім органам, вырашана звярнуцца за дапамогай ва ўрад рэспублікі. Толькі на што можна спадзявацца, калі ён сам чакае не дачакаецца канкрэтнай дапамогі па чарнобыльскай праграме былога Саюза ССР ад краін СНД, якія пакуль што адварочваюцца ад нашай нацыянальнай бяды.




Мінскі грамадска-асветніцкі клуб «Спадчына» сумесна з рэдакцыяй беларуска-амерыканскага часопіса «Полацак» звяртаецца да творчай інтэлігенцыі й гісторыкаў Беларусі з прапановай распрацаваць нарысы па гісторыі падзей і дзяржаўнасці Беларусі: **1) ад старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя; 2) ад пачатку XX стагоддзя да нашых дзён.**

Клуб «Спадчына» і часопіс «Полацак» гарантуюць павышаную аплату аўтарскага ганарару, а таксама надрукаванне аўтарскіх матэрыялаў як у часопісе «Полацак», так і ў асобных выданнях.

За даведкамі і прапановамі звяртацца да сп. Анатоля Белага па адрасу:

**220037, Мінск, в. Уральская, 16, кв. 9.**
**Тэл. 38-83-67 ці 51-22-65.**

Аргкамітэт.

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ЛЕНІНІЯНА З АДЦЕННЕМ ФАРАОНСТВА

**29,6 мільёна долараў — за такую астранамічную суму быў прададзены ў Бостане (ЗША) першы хрустальны саркафаг для маўзалея Леніна. Гэты унікальны твор майстроў з Гусь-Хрустальнага быў створаны ў пачатку 1924 года і бясследна знік у час транспарціроўкі ў Маскву. У розны час выказваліся думкі, што да знікнення прыклалі руку і Троцкі, і Сталін, і «жалезны Фелікс». І вось праз 67 гадоў удзельнікі ніжагародскай ініцыятыўнай групы, створанай з былых ваенных і работнікаў праваахоўных органаў, узяліся за справу. І, як высветлілася ў выніку гадавога пошуку, усе 67 гадоў саркафаг праляжаў у забытым складзе Гусь-Хрустальнага. Прозвішчы ўдзельнікаў здзелкі, як паведамляе газета «Бостан Глоб», не афішыруюцца, але вядома, што пакупнік — мультымільянер арабскага паходжання, а грошы пераведзены ў швейцарскі банк.**

С. СУЛКОЎСКІ.

### ХІТ-ПАРАД У РОЦЕ

**Амерыканскі інжынер Кэнет Браўн запатэнтаваў (патэнт ЗША № 5044037) сваё новае вынаходства—зубную шчотку, у якую ўманціравана мініяцюрная музычная шкатулка. Калі дзіця (а менавіта для маленькіх у першую чаргу прызначана вынаходка) пачынае чысціць зубы, гучыць «папулярная» мелодыя, што прыдае звычайна непрыемнаму і манатоннаму працэсу адценне цікавасці.**

### МЫ ЎЖО НЕ ПРЫЗЁРЫ

Пасля распаду Савецкага Саюза Інданезія са сваімі 180 мільёнамі жыхароў уступае па колькасці насельніцтва толькі тром краінам: Кітаю, Індыі і ЗША.

### «МАРУСЯ» СУПРАЦЬ «НІНА РЫЧЫ»

**«Маруся» — так называюцца духі, якія нарадзіліся ў выніку супрацоўніцтва парфумераў Францыі і былога Савецкага Саюза. Кіраваў калектывам вядомы мадэльер Вячаслаў Зайцаў. Мэта, якую ствaральнікі навінкі паставілі перад сабой — праз тры гады дабіцца таго, каб «Маруся» выйшла ў «пяцёрку» лепшых духоў Еўропы. Для гэтага ў Маскве ідзе ўзмоцненая работа над дызайнам флакона, у якім «Маруся» будзе прапанавана пакупніку.**

## З міліцэйскай зводкі: «спаў салодка...»

**БАРАНАВІЧЫ. Ноччу з незачыненай кватэры ў адным з дамоў па вуліцы Будаўнічай, калі гаспадар спаў, былі выкрадзены тэлевізар «Гарызонт-206», шапка і 80 рублёў.**

**Устаноўлена, што злачынства здзейсніў мясцовы жыхар, будаўнік завода аўтаагрэгатаў. Напамінак аматарам здаровага сну: перад тым, як ухутацца з галавой у коўдру, — шчыльна зачыняйце дзверы! Як бачыце, і зладзеі пакутуюць ад бяссоння. Відаць, дакоры сумлення не даюць.**

БелаПАН.

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб часовым парадку валютнага рэгулявання і правядзенні валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

У мэтах умацавання прававога рэжыму фарміравання, размеркавання, выкарыстання валютных рэсурсаў і правядзення валютных аперацый, а таксама вызначэння функцый органаў улады і банкаўскай сістэмы ў валютным рэгуляванні і кіраванні валютнымі рэсурсамі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь аб валютным рэгуляванні:

1.1. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь вызначае агульныя прынцыпы валютнай палітыкі, зацвярджае па прадстаўленню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь план фарміравання і выкарыстання Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь, ліміт знешняга дзяржаўнага доўгу, вызначае паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай улады і кіравання ў сферы валютных адносін;

1.2. функцыі па аператыўнаму кіраванню і выкарыстанню сродкаў Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь ускладаюцца на Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

1.3. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь прадастаўляюцца функцыі выканаўчага органа дзяржаўнага валютнага рэгулявання і кантролю па кіраванню валютнымі рэсурсамі, якія знаходзяцца на яго балансе; вызначэнню сферы і парадку абарачэння замежнай валюты на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь; рэгуляванню курсу рубля да замежных валют; ліцэнзаванню дзейнасці камерцыйных банкаў па аперацыях з валютнымі каштоўнасцямі; ажыццяўленню кантролю за правядзеннем валютных аперацый;

1.4. сістэму валютных фондаў у рэспубліцы з 1992 года складаюць:

Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь;

валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў;

валютны рэзервовы фонд Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь;

валютныя фонды прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, незалежна ад форм уласнасці, і асоб, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы (суб'ектаў гаспадарання);

валютныя рахункі грамадзян;

1.5. Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь і валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў фарміруюцца за кошт абавязковага продажу ў гэтыя фонды ўсімі суб'ектамі гаспадарання незалежна ад форм уласнасці і ведамаснай прыналежнасці часткі валютнай выручкі, а таксама падатковых і іншых валютных паступленняў.

Валютны рэзервовы фонд Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь фарміруецца ў парадку, які вызначаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Валютныя фонды суб'ектаў гаспадарання фарміруюцца за кошт валютнай выручкі, якая паступае на іх рахункі ад знешнеэканамічных аперацый, незалежна ад спосабаў іх учынення (самастойна або праз пасрэднікаў), а таксама рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) на тэрыторыі рэспублікі з аплатай у замежнай валюце. Адлічэнні ва ўказаныя валютныя фонды, за выключэннем падатковых плацяжоў, якія выплачваюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, ажыццяўляюцца ў размерах, якія зацвярджаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Суб'екты гаспадарання пасля фарміравання ўласных валютных фондаў частку валютнай выручкі, што засталася, прадаюць за рублі ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь і валютныя фонды абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў у размерах, якія ўстанаўліваюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Абавязковаму продажу не падлягаюць валютныя пазыковыя сродкі і валютныя сродкі прадпрыемстваў, атрыманыя па субпастаўках.

Курс рубля, які выкарыстоўваецца для разліку рублёвага пакрыцця валютнай выручкі, што падлягае абавязковаму продажу ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь і валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, устанаўліваецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

1.6. аперацыі на валютным рынку Рэспублікі Беларусь праводзяцца толькі праз банкі, якія атрымалі ліцэнзіі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на права правядзення аперацый у замежнай валюце (упаўнаважаныя банкі).

Суб'екты гаспадарання могуць ажыццяўляць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь скупку, абмен, канверсацыю валюты, рознічны гандаль і аказанне паслуг за валюту толькі па ліцэнзіях Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ва ўстаноўленым законам парадку;

1.7. продаж праз упаўнаважаныя банкі замежнай валюты юрыдычным асобам, зарэгістраваным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляецца толькі ў мэтах набыцця імі па імпарту абсталявання, сыравіны, тавараў і атрымання паслуг, аказання медыцынскай дапамогі і фінансавання мерапрыемстваў, звязаных з ліквідацыяй аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Продаж грамадзянам замежнай валюты ажыццяўляецца ўпаўнаважанымі банкамі за кошт валюты, якая набываецца імі па рынучным курсе.

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь вызначае гранічную розніцу курсаў куплі і продажу наяўнай валюты ўпаўнаважанымі камерцыйнымі банкамі, а таксама граніцы куплі для вывазу грамадзянамі валюты за мяжу;

1.8. суб'екты гаспадарання захоўваюць валютныя сродкі ва ўпаўнаважаных банках Рэспублікі Беларусь, якія маюць ліцэнзію Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Адкрыццё валютных рахункаў за межамі Рэспублікі Беларусь праводзіцца суб'ектамі гаспадарання толькі па ліцэнзіях і ў парадку, які ўстанаўліваецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

Суб'екты гаспадарання, якія маюць валютныя сродкі на рахунках за межамі Рэспублікі Беларусь без адпаведных ліцэнзій Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, павінны на працягу двух месяцаў з моманту прыняцця гэтай Пастановы пералічыць указаныя сродкі на свае рахункі ва ўпаўнаважаных банках на тэрыторыі рэспублікі або атрымаць адпаведны дазвол Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

2. Дазволіць банкам, упаўнаважаным на вядзенне валютных аперацый на тэрыторыі рэспублікі, адкрываць валютныя рахункі ўсім грамадзянам без прадастаўлення імі дакументаў аб паходжанні валютных сродкаў.

Замежная валюта, якая знаходзіцца на рахунках грамадзян, выдаецца па іх патрабаванню без якіх-небудзь абмежаванняў і дазволаў.

Выплата суб'ектамі гаспадарання грамадзянам-рэзідэнтам заработнай платы, прэмій і любых відаў узнагароджанняў у замежнай валюце не дапускаецца.

3. Устанавіць, што:

3.1. аплата расходаў у замежнай валюце па службовых замежных камандзіроўках грамадзян рэспублікі ажыццяўляецца за кошт сродкаў суб'ектаў гаспадарання дзяржаўнага сектара па нормах, якія ўстанаўліваюцца Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь. Персанальную адказнасць за мэтавае выкарыстанне валютных сродкаў на камандзіровачныя расходы нясуць кіраўнікі камандзіруючых прадпрыемстваў і арганізацый;

3.2. работнікі дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, вінаватыя ў раскраданні або недастачы замежнай валюты (свабодна канверсуемай валюты і фондавых каштоўнасцей у свабодна канверсуемай валюце), нясуць крымінальную, адміністрацыйную або дысцыплінарную адказнасць, а таксама кампенсуюць у двухразовым размеры кошт гэтай валюты, якая вызначаецца па рыначным курсе, дзеючым на дзень прычынення страты.

4. Экспарцёры тавараў (работ, паслуг) абавязаны ўказваць у мытнай грузавой дэкларацыі рэквізіты і поўную назву ўпаўнаважанага банка, пры дапамозе якога будуць праводзіцца разлікі з замежным партнёрам, і тэрмін паступлення валютных плацяжоў.

Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь штомесячна накіроўвае ва ўказаныя ў мытных грузавых дэкларацыях упаўнаважаныя банкі рэестры мытных дэкларацый, на аснове якіх былі выпушчаны экспартныя грузы.

У выпадку непрадастаўлення ў банк плацежных дакументаў або непаступлення валютнай выручкі пасля заканчэння тэрміну, указанага ў дэкларацыі, упаўнаважаны банк на працягу 30 дзён інфармуе аб гэтых фактах Дзяржаўны камітэт па знешніх эканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь для арганізацыі праверкі знешнеэканамічнай дзейнасці экспарцёра.

5. Устанавіць, што валютная выручка, атрыманая ў выглядзе пошлін, падатковых і іншых плацяжоў, якія выплачваюцца ў даход рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў суб'ектамі гаспадарання і грамадзянамі, у адпаведнасці з дзеючым на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь заканадаўствам паступае адпаведна ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь і валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

6. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь і Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь забяспечыць кантроль за выкананнем палажэнняў, устаноўленых дадзенай Пастановай.

7. Дзеянне дадзенай Пастановы ў частцы абавязковага продажу валютных сродкаў у Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь і валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў не распаўсюджваецца на суб'екты гаспадарання з замежнымі інвестыцыямі, у якіх доля замежнага ўдзельніка ў статутным фондзе перавышае 30 працэнтаў і валютная выручка атрымана ад экспарту ўласнай прадукцыі (работ, паслуг).

8. Устанавіць на 1992 год, што прадпрыемствы, аб'яднанні і арганізацыі могуць закупляць па імпарту харчовыя і прамысловыя тавары народнага спажывання першай неабходнасці ў аб'ёме не больш 25 працэнтаў уласных валютных сродкаў, уключаючы тавараабменныя аперацыі.

9. Увесці ў дзеянне гэту Пастанову з 1 красавіка 1992 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

20 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

**✻ Палітыка эканамічных рэформ прэзідэнта Барыса Ельцына зноў падверглася крытыцы з боку правых дэпутатаў расійскага парламента. У час пасяджэння ў сераду некалькі дэпутатаў заклікалі да адстаўкі Ельцына з паста прэм'ер-міністра і да перарэфармавання ўрада. Большасць жа выступаючых патрабавалі неадкладнай карэкціроўкі рэформ і расшырэння мер сацыяльнай абароны насельніцтва. Кансерватыўна настроеныя дэпутаты патрабуюць замарудзіць тэмпы рэформ.**

✻ Расійскія заканадаўцы патрабуюць выкарыстаць войскі, размешчаныя на тэрыторыі Малдовы, у якасці міратворчых сіл. На іх думку, толькі яны могуць спыніць сутыкненні паміж малдаўскімі сіламі і рускамоўнымі сепаратыстамі.

**✻ Камандуючы ваенна-марскімі сіламі былога Саюза ССР адмірал Уладзімір Чарнавін знаходзіцца ў Севастопалі для выканання ўказа прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына аб пераводзе Чарнаморскага флоту пад кантроль Расіі. Адмірал Чарнавін мае намер абмеркаваць будучы статус флота з украінскімі парламентарыямі. Тым часам міністр замежных спраў Расіі Андрэй Козыраў прапанаваў свайму ўкраінскаму калегу Анатолю Зленку абмеркаваць у суботу ў Маскве пытанне аб Чарнаморскім флоце. Стала таксама вядома, што намячаецца і сустрэча прэзідэнтаў Расіі і Украіны Барыса Ельцына і Леаніда Краўчука па гэтаму пытанню.**

✻ Камандуючы Чарнаморскім флотам адмірал Ігар Касатонаў, які падтрымлівае пазіцыю Масквы, зняў з пасады контр-адмірала Барыса Кожына — камандзіра Крымскай ваенна-марской базы. Раней контр-адмірал Кожын атрымаў назначэнне на пост галоўнакамандуючага ваенна-марскімі сіламі Украіны.

### РАДЫЁ «ФРАНС ІНТЭРНАСЬЯНАЛЬ (RFI)»

**✻ Старшыня Вярхоўнага Савета Літвы Вітаўтас Ландсбергіс згадзіўся вызваліць палкоўніка Івана Чарных — афіцэра былога савецкага Балтыйскага флота, абвінавачанага і арыштаванага за ўдзел у жнівеньскім путчы. Рашэнне аб вызваленні дасягнута ў час нарады, у якой прынялі ўдзел Ландсбергіс, літоўскія пракуроры і прадстаўнікі Расійскага ваеннага камандавання. Агенцтва Рэйтэр паведамляе, што Іван Чарных быў абвінавачаны ў змове супраць былога прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова. У прыватнасці, сцвярджалася, што ён уводзіў у Клайпедзе ваеннае становішча і аб'яўляў аб тым, што бярэ кантроль над усім раёнам. Чарных нібыта аддаваў загад кіраўнікам прадпрыемстваў падпарадкавацца лідэрам путча. Раней адмірал Уладзімір Ягораў — галоўнакамандуючы Балтыйскім флотам, накіраваў пісьмо Вітаўтасу Ландсбергісу з выказваннем пратэсту супраць арышту палкоўніка Чарных. У пісьме ўказвалася, што калі палкоўнік не будзе вызвалены неадкладна, Балтыйскі флот прыме ўсе меры да яго вызвалення.**

✻ Лівія пагадзілася перадаць двух асоб, вінаватых у выбуху на авіялайнеры над Шатландыяй, у нейтральную краіну. Лівія зрабіла гэта пасля таго, як Арганізацыя Аб'яднаных Нацый аб'явіла аб увядзенні супраць яе санкцый з 15 красавіка.

**✻ Прэм'ер - міністр Францыі П'ер Берагавуа аб'явіў, што Францыя прыпыняе да канца гэтага года ядзерныя выпрабаванні ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна. Ён заклікаў і ўсе іншыя краіны спыніць небяспечныя выпрабаванні.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## ЦІ НЕ ПАРВЕЦЦА ДЗІРАВАЯ КОЎДРА, калі яе цягнуць у розных напрамках?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

закона прадаставілі спісы такіх прафесій № 1 і № 2. Спіс № 1 дае права выхаду на пенсію пры пэўным стажы мужчынам у 50 гадоў, жанчынам — у 45. Спіс № 2 — мужчынам у 55 гадоў, жанчынам — у 50. І вось тут высветлілася, што ў праекце не ўлічаны трактарысты сельскай гаспадаркі, экскаватаршчыкі меліярацыі, вадзіцелі гарадскіх аўтобусаў, тралейбусаў і трамваяў, а таксама іншыя катэгорыі. Скажам, чым горшыя трактарысты сельгасхіміі і сельгастэхнікі? Куды аднесці трактарыста-фермера і яго жонку-даярку? А жывёлавод? У каго цяжэйшая работа? У таго, хто ездзіць па асфальту, ці ў таго, хто па калдобінах?

Дзіравая коўдра нашых фінансавых магчымасцей ужо гатова была трэснуць, так яе цягнулі ва ўсе бакі, але ў выніку шматлікіх галасаванняў і пераагаласаванняў артыкул адправілі на дапрацоўку ў камісію.

Пэўныя цяжкасці пры абмеркаванні артыкула ўзніклі і таму, што некаторыя льготы з аналагічнага закона былога Саюза трэба было прадубліраваць і ў беларускім варыянце. Інакш магло атрымацца так, што адны і тыя ж катэгорыі грамадзян жылі б па розных законах. Але, здаецца, галоўную ідэю распрацоўшчыкам нашага праекта ўдасца адстаяць: пенсія ў першую чаргу павінна залежаць ад колькасці і якасці нашай працы. Асноўны крытэрый тут адзін — заработная плата. Таму раім усім: калі хочаце атрымліваць вялікую пенсію — працуйце да сёмага поту!

**Людміла РЫЖАНКОВА,**
**Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

## З электрычнасцю—на «вы»

**СЁННЯ З ВАМІ ГУТАРЫЦЬ КІРАЎНІК ЦЭНТРА ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ БЫТАВОГА І ДЗІЦЯЧАГА ТРАЎМАТЫЗМУ АНАТОЛЬ ГОРЛАЎ.**

**У гэтым выпуску мы прадоўжым размову пра бытавыя траўмы. Сёння гаворка пойдзе пра жылыя памяшканні, пра тыя «дробязі», якія неабходна ўлічыць, асабліва калі ў доме ёсць маленькія дзеці. Дык вось, калі ў вашым пакоі слізкі паркет, усе дыванкі, дарожкі, паласы трэба замацаваць. Для гэтага на ражкі можна наклеіць тоўстую ізаляцыйную стужку ці па дыяганалі прыбіць мэблевыя цвікі.**

**Дзіця можа атрымаць апёк, выпадкова дакрануўшыся да вельмі гарачых батарэй.** Іх можна закрыць ахоўнымі драўлянымі каркасамі, прычым з закругленымі рагамі. Ці ведаеце вы, што штогод у буйным горадзе з акон выпадаюць некалькі дзесяткаў дзяцей? Вось чаму тым, у каго на вокнах не працуе верхняя зашчапка ці шпінгалет, няспраўнасць давядзецца тэрмінова ліквідаваць. Калі ж у вашым пакоі па ўсёй сцяне вісяць кніжныя паліцы, пад імі не варта ставіць сафу, канапу ці дзіцячы ложак. Ну, а тым, хто толькі збіраецца з іх дапамогай зрабіць інтэр'ер больш разнастайным, раю замацоўваць іх у мэтах бяспекі лепш за ўсё адну над адной, г. зн. у адзін рад знізу ўверх.

**Час ад часу ў кожным пакоі патрэбна замяніць у люстры лямпачку ці працерці шыбы ў вокнах.** Для гэтай мэты няблага мець драбінкі — традыцыйнае нагрувашчванне крэсла на стол часта абарочваецца падзеннем. Акрамя таго, многія сем'і абыходзяцца адным тэлефонным апаратам, выкарыстоўваючы пры гэтым для зручнасці шматметровы шнур. Як паказвае вопыт, у гэтым выпадку зусім няцяжка, выпадкова за яго зачапіўшыся, паваліцца. Вось чаму лепш аддаць перавагу дадатковым разеткам.

**Некалькі слоў пра электратраўмы.** Паводле статыстыкі, кожная дзесятая з іх заканчваецца смерцю. Запомніце некалькі правіл, якімі ні ў якім выпадку не варта грэбаваць. Разетка не павінна знаходзіцца над дзіцячым ложкам ці пад ім. Да таго ж яны павінны быць бяспечнымі, г. зн. з паваротным прыстасаваннем, або закрытымі драўлянымі ці пластмасавымі заглушкамі. Што датычыць тэлевізара, яго непажадана ставіць блізка ля батарэі, таму што пры любой няспраўнасці адначасовы дотык да яе, антэны і металічнага кажуха можа прывесці да электратраўмы. Ні адзін з электрапрыбораў, уключаных у разетку, нельга праціраць мокрай анучкай ці фланеллю.

Хутка ў гарадскіх кватэрах **адключаць ацяпленне.** Іншы раз, каб абагрэць дзіцячы ложак, ставяць побач з ім электраплітку ці іншы награвальны прыбор з адкрытай спіраллю. Дык вось — рабіць гэтага нельга: паралонавы матрац можа загарэцца за некалькі секунд.

233

## ЗААПАРК У КВАТЭРЫ

### Вожык

**Гэты звярок, які, канешне, рэдкасць у гарадской кватэры, асабліва падабаецца дзецям. Спецыяльна паляваць на яго не варта — лепш за ўсё яму жывецца на волі. Але калі вожык усё ж трапіў да вас, то дома гэтага звярка трымаць няцяжка. Ён сам знойдзе сабе зручны куток: у кладоўцы, пад ваннай, шафай, на балконе. Можна трымаць яго і ў прасторнай скрыні, але там вожыку будзе цесна. Раз у суткі, вечарам, яго трэба абавязкова выпускаць пабегаць.**

**Кормяць вожыка ў хатніх умовах сырым і вараным мясам, мучнымі чарвякамі, малаком. П'е ён і салодкі чай, любіць сырую рыбу, яйкі, есць садавіну.**

**Калючы звярок лёгка прывыкае да чалавека, гуляе са свойскімі жывёламі, з часам становіцца ручным, нават адгукаецца на мянушку.**

234

## Што можна, а што—не

**На кожнай рэчы адзення ёсць указанні па догляду. Гэта этыкетка, на якой змешчаны тэкст ці малюнкі сімвалаў. Маркіроўка сімваламі з'яўляецца міжнароднай і ўсё часцей сустракаецца на адзенні, асабліва імпартнай вытворчасці. «Хатняя энцыклапедыя» нагадвае гаспадыням, што абазначаюць найбольш частыя сімвалы.**

Рэч можна кіпяціць, машыннае мыццё — па нармальнай праграме і пры паласканні не патрабуецца кантролю тэмпературы вады.

Можна мыць у пральнай машыне пры тэмпературы не вышэй як 95° С па ўмеранай праграме (з асцярожнасцю), а паласкаць са змяншэннем тэмпературы вады.

Мыць уручную ці ў машыне, а таксама паласкаць пры тэмпературы не вышэй як 60° С.

Мыць уручную ці ў машыне пры тэмпературы не вышэй як 60° С, захоўваючы асцярожнасць, паласкаць са змяншэннем тэмпературы вады.

Дапускаецца машыннае мыццё пры тэмпературы не вышэй як 40° С адпаведна па нармальнай і ўмеранай праграмах; паласканне пры тэмпературы не вышэй як 40° С.

Тое самае, што і для двух папярэдніх сімвалаў, але пры тэмпературы не вышэй як 30° С.

Забараняецца хімічная чыстка.

235

Гэтыя сімвалы адрасаваны працаўнікам службы быту і датычацца хімчысткі.

Рэч можна мыць толькі ўручную пры тэмпературы не вышэй як 40° С з асцярожнасцю і хутка: пасля паласкання злёгку адціснуць, не выкручваючы.

Мыць нельга.

Можна адбельваць сродкамі, якія ўтрымліваюць хлор.

Нельга адбельваць сродкамі, якія ўтрымліваюць хлор.

Дапускаецца сушка ў барабаннай сушылцы без асаблівай асцярожнасці.

Падвешваць для прасушкі.

Раскладваць для прасушкі на плоскай паверхні.

Прасаваць пры тэмпературы не вышэй адпаведна 110, 150 і 200° С.

Прасаваць нельга.

236

